Belarusan Canadian Coordinating Committee
Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады
Comité Bielorussien De Coordination Au Canada



# КАМУНІКАТ Но. 5 (71 ад1999), ВЕРАСЕНЬ, 2002

## ЗАЯВА РАДЫ БНР АБ ПАГРОЗЕ АНЭКСІІ БЕЛАРУСІ

Апошнія выказваньні прэзыдэнта Расеі Уладзімера Пуціна адносна інкарпарацыі Беларусі ў склад Расеі пры фактычнай страце ўсіх атрыбутаў незалежнасьці знаходзяцца па-за межамі агульнапрынятых нормаў міжнародных дачыненьняў.

Нават калі словы расейскага прэзыдэнта тлумачацца жаданьнем пазбавіць улады Лукашэнку, якога Расея дагэтуль падтрымоўвала насуперак пазыцыі дэмакратычных краінаў Захаду, яны выклікаюць вялікую трывогу; беларускі народ не павінен расплочвацца за дзеяньні Лукашэнкі правам на свабоду й незалежнасьць.

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі бачыць у заявах Крамля гвалт над годнасьцью беларускага народу і ягонаю воляю, выяўленай ім у Канстытуцыі 1994-га году жыць у сваёй уласнай і сувэрэннай дзяржаве.

Мы заклікаем усе палітычныя партыі й рухі Беларусі ўсьведаміць сабе небясьпеку і выступіць у абарону нацыянальных каштоўнасьцяў, якія былі здабытыя пакаленьнмямі нашых продкаў і павінны быць захаваныя для нашых нашчадкаў.

Рада БНР заклікае ўсе беларускія арганізацыі ў замежжы ўсімі магчымымі сродкамі й шляхамі дапамагаць змагарам за Незалежнасьць і Волю Бац.каўшчыны.

Жыве Беларусь!

**Івонка Сурвілла**
**Старшыня Рады БНР**

Атава, Канада. 15-га жніўня 2002 годду.

## 8-га ВЕРАСЬНЯ - ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЙ ВАЙСКОВАЙ СЛАВЫ

«У гэты дзень у 1514 годзе ля Воршы 30-цітысячнае беларускае войска пад камандаваньнем гэтмана найвышэйшага Беларуыска-Літоўскай дзяржавы князя Канстанціна Іванавіча Астрожскага разграміла 80-тысячную армію Маскоўскага вялікага княства пад камандаваньнем галоўных ваяводаў - баярына князя Міхаіла Іванавіча Булгакава .

Аршанская бітва 8-га верасьня 1514 году была адной з буйнейшых на тэрыторыі Эўропы ў пачатыку XVI стагодзьдзя. Яе адлюстоўвалі ўсе тагачасныя, у



54 Mary St., Barrie, Ontario, Canada, L4N 1T1 Tel/Fax (705) 725- 8654

тым ліку й расейскія, летапісы й хронікі. Адным зь першых даў апісаньне Аршанскай бітвы вядомы польскі гісторык і паэт Мацей Стрыйкоўскі (1547-1590)., які ў 1563 годзе пераехаў у Вялікае кнняства Літоўскае і служыў тут у войску на маскоўскай мяжы, удзельнічаў у ваенных дзеяньнях у Беларусі падчас Лівонскай вайны. (....)

Менавіта Мацей Стрыйкоўскі і даў сучасным і нашчадкам апісаньне Аршанскай бітвы ў празаічнай і часткова вершаванай форме ў сваёй галоўнай гістарычнай працы - «Кроніцы польскай, літоўскай, жамойцкай і усёй Русі», першай друкаванай гісторыі Вялікага княства Літоўскага, выдадзенай у Каралеўцы (Кёнігзбэргу) на польскай мове ў 1582 годзе. Напісаная М. Стрыйкоўскім годзе «Кроніка» была ў 70-я гады XYI ст. Перакладзеная на беларускую мову яна была ў канцы XYI - пачаыку XYII ст. Карыстаўся М. Стрыйкоўскі рознымі крыніцамі, у тым ліку летапісамі, частка якіх не захавалася да нашага часу. Так, у 1576-1578 гадох гісторык знаходзіўся пры двары слуцкіх князёў Алелькавічаў у іх рэзыдэнцыях у Слуцку і Капыклі і азнаёміўся зь бібліятэкай і архівам слуцкіх князёў, у тым ліку летапісамі, частка якіх да нашага часу не зьберагліся. Такая папярэдняя праца шмат у чым дапамагла яму напісаць «Кртоніку».

У II томе «Кронікі» М. Стрыйкоўскага распавадаецца пра Аршанскую бітву 1514 году (кніга 24 «Кронікі»). Гэтая падзея апісана аўтарам на сямі старонках пад загалоўкам «Аб слаўнай перамозе над 80-ці тысячамі войскаў маскоўскіх пад Воршай....».

Мацей Стрыйкоўскі паведамляе, што вялікі князь маскоўскі Васіль Іваавіч даведаўшыся, што ў караля Жыгімонта ў Барысаве мала войска, вырашыў уварвацца ў Беларусь, нанесьці паразу войску Беларуска-Літоўскай дзяржавы і рэшткі яго ўзяць у палон і прыгнаць у Маскву. Насустрач маскоўскаму войску выступіла 30-тысячнае беларускае войска, у складзе якога было 4 тысячы польскіх вершнікаў. Галоўнакамандаючым быў гэтмак Канстанцін Іванавіч Астрожскі. Асобныя аддзелы войска ўзначал.валі Юры Радзівіл і Іван Сапега. Польскімі аддзеламі камандаваў Ян Сьвярчоўскі, а сваімі ўласнымі аддзеламі Тэпчынскі, Пілецкі, Кміта і іншыя.

І. Чаляднін выбраў для бітвы вялікае поле на левым беразе Дняпра, паміж Воршай і Дуброўняй ля ракі Крапіўны. К. Астрожскі таксама вырашыў даць бой на гэтым полі. 7 верасьня ў ноч на 8 верасьня ён пераправіў сваё войска з правага берагу Дняпра на левы бераг, коньнікаў ўброд, а пяхоту й гарматры па двух пантонных мастах ноччу; каб колы гарматаў ня грымелі на дошках на мосьце (з бочак) , дошкі былі засланы чаротам.

Раніца 8 верасьня 1514 г. абодва войгскі зшыхтаваліся на полі бою. Пад гукі трыб і бубнаў маскоўскае войска пачало наступ. Аднак беларускае войска на чале з Канстанцінам Астрожскім адбіла першы націск, і маскоўскія ваяры адступілі. Чаляднін адправіў у бой новыя сілы. У гэты момант Канстанцін Астрожскі, якому было тады 54 гады , зьвярнуўся да сваіх рыцараў з прамовай: «Гэй, дзеці! От наша перамога і трытумф гатовыя. Ужо непрыяцель мдлеет, таму мілыя браты, адноўце звыклую мужнасьць у шчасьлівай хвілі. Цяпер будзьце мужнымі . Сам Бог стаіт на нашай старане. .... Ну ж цяпер усе за мной сьмела наступайце . А ў мужнасьці слаўных айцоў сынамі чуйцеся, я сам перад вамі сваю галаву стаўкю, і ў першым з непрыяцеляў шаблю акрываўлю».

Пачалася жорсткая бітва. Атаку пачаў полк правай рукі маскоўскага войска на чале з М. Булагакавым - Голіцам. Конніца К. Астрожскага контратакавала. Урэшце конніца Булгакава была разьбіта і пачала адступаць.

Потым І. Чаляднін павёў свае палкі ў атаку. А Канстанцін Астрожскі падрыхтаваў неспадзяванку. Раптам ён загадаў сваім коннікам адступаць. Упэўнены ў блізкай перамозе , маючы перавагу ў воінах, Чаляднін кінуў у рашучую атаку ўсе свае сілы.. Здавалася, што маскоўская конніца перамагае. Але ў гэты момант непадалёк ад лесу (ужо ля самага берагу Дняпра), конніца Астрожскага нечакана для ворагаў падзялілася на дзьве часткі , якія зманеўравалі ў супрацьлеглыя бакі. Уся бязладная маса маскоўскіх воінаў апынулася перад пяхотай і гарматамі , якія ўжо былі падрыхтаваныя да поўнага залпу. Пачаўся расстрэл маскоўскай конніцы. Стралялі і па пярэдніх і па задніх шэрагах . Гэта выклікала паніку . Уцякалі ўжо войскі абодвых флянгаў маскоўскай арміі. Адны - у лясы, другія - у балоты. Цяжка параненыя маскоўцы крычалі пераможцам: «Дабі!» , лёгкапараненыя : «Толко не сечт голову». Шмат уцекачоў было забіта пад час пагоні, частка ўцекачоў потанула ў Крапіўне і Дняпры. Толькі ноч уратавала частку маскоўцаў М. Стрыйкоўскі , са спасылкай на маскоўскіх палонных, паведамляе, што ў бітве загінула 40 тысяч маскоўскіх воінаў. Войска К, Астрожскага, паводле М. Стрыйкоўскага , страціла болкей за 400 чалавек, але было шмат параненых. Аўтар «Хронікі» пераліучыў усіх маскоўскіх ваяводаў на чале з І. Чалядніным і М. Булгакавым - Голіцам, якія трапілі ў палон . Было ўзята ў палом дзьве трысячы камандзіраў аддзелаў і дзяцей баярскіх (Групса фэадалаў з нязначна большымі правамі , чым дваравчне). Палонных у знак перамогі рассылалі на імпэратарскі і каралеўскія двары Эўропы.

даведаўшыся аб такой жорсткай паразе, маскоўслі вялікі князь Васіль Іванавіч уцёк са Смаленску ў Маскву.

Пасьля перамогі пад Воршай кароль і вялікі князь Жыгімонт расьпісаў войска і арганізаваў трыумф князю К. Астрожскаму ў Вільні.»

**А. Грыцкевіч доктар гістарычных навук, прафэсар.**

Узята з артыкулу праф. А. Грыцкевіча «Бітва пад Оршай 8 верасьня 1514 году ў «Кроніцы» М. Стрыйкоўскага» ў газэце «Наша Слова» Но. 34 за 4 верасьня, 2002 г.

## НАРОДНАЕ СЬВЯТА 8-га ВЕРАСЬНЯ Ў БЕЛАРУСІ

Як паведсмляе «Наша Ніва» за 13 верасьня: **«Дзень беларускай вайсковай славы** за апошнія 10 гадоў стаў сапраўдным сьвятам для тых грамадзянаў, у якіх жыве праўдзівы беларускі дух. Таму, ня гледзячы на летаргію палітчных партый нацыянал-дэмакратычнае арыентацыі, сьвяточныя імпрэзы прайшлі па ўсёй краіне.

Так, у Гародні ўдзелнікі ўскладалі кветкі да мэмарыяльнай дошкі паўстанцам Касьцюшкі на Новым замку і зь бел-чырвона-белым сьягам прайшлі да памятнага знаку «Пагоня на Гртунвальд», што каля Каложы.»

У Заслаўі «8 верасьня якраз скончыўся фэст сярэднявечнай культуры «Заслаўскі набат». Ягонай аздобай сталіся як рыцарскія баі, так і выступ ансамблю «Госьціца» пад кіраўніцтвам Ларысы Сімаковіч». (...) Людзі «сабраліуся ў горад Рагнеды адзначыць Дзень беларускай вайсковай славы і перамогу пад Воршай. Было багата музыкі Уладзімер Пузыня граў на хоруме - інструмэнце, які ён

рэканструяваў паводле «Радзівілаўскага летапісу», дзьмуў у дуду Зьміцер Сасноўскі, сьпяваў «Палац». Таўкліся людзі й вакол выязнай «экспазыцыі» Браслаўскага краязнаўчага музэю: тут можна было паесьці бліноў, сьпечанмых пры табе ў старажытнай печы, купіць зробленыя на месцы гліналыя глякі й збаны.

Пад саму **Воршу, на Крапівенскае поле,** зьехаліся госьці зь Менску, Берасьца, Гомелю, Горадні, Магілёва, Крупак. Дзень беларускай вайсковай славы тут ладзіўся па прынцыпе народнага сьвята: без афіцыйных арганізатараў, спонсарскай падтрымкі, загадзя падрыхтаванаай праграмы. На Крапівенскім полі не было афіцыйных прадстаўнікоў палітычных партыяў, але панаваў беларускі дух. Па-беларуску прымалі прысягу каля Крыжа памяці скаўты й «зубры» .Прамаўляў Уладзімер Арлоў, сьпявалі Андрэй Мельнікаў, Зьміцер Бартосік, Зьміцер Сідаровіч, Алесь Мухін-Рабянік, Андрэй Латушкін. Наведаў сьвята Барыс Хамайда - рэдактар віцебскай газэты «Выбар», што, як напісана ў выходных зьвестках , выдаецца якраз на Крапівенскім полі. Дзеля таго самага поля пакінула сьвята ў Заслаўі Арына Вячрка, якая ўганаравала ўдзельнікаў аршанскай імпрэзы каронамі. Караліна Мацкевіч , што прыехала на бацькаўшчыну зь Вялікай Брытаніі, сьпявала песьні з рэпэртуару легэндарнай «Майстоўні».

Дзень беларускай вайсковай славы паступова пазбываецца флёру палітызаванага, «антырасейскага» сьвята. Ён робіцца разнастайным і насамрэч народным, захоўваючы пры гэтым свой патрыятычны характар.»

«Наша Ніва», з артыкулу **Аркадзя Шанскага.**

Пад бел-чырвона-белым штандарам і плякатам з напісам **«8 ВЕРАСЬНЯ ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЙ ВАЙСКОВАЙ СЛАВЫ»** каля Акадэміі Навук мітынгавалі сябры КХП-БНФ. БНФ «Адраджэньне» арганізавала мітынг-канцэрт на менскай плошчы Бангалор. «Малады Фронт» пікетаваў з плякатам: **«ПУЦІН ТАБЕ ТРЭБА ДРУГАЯ ОРША»** ля расейскай амбасады ў Менску.

* * *

## 11-га ВЕРАСЬНЯ ў НЬЮ ЁРКУ.

Нью Ёрк - Злучаныя Штаты Амэрыкі, Лёндан - Англія з удзелам каралеўскае сям'і, ды сьвет, не выключаючы Беларусь, жалобнымі рэлігійныні ўрачыстасьцямі, малітвамі, запаленымі сьвечакамі і кветакамі аддаюць пашану памяці блізу тром тысячам ахвяр, што загінулі ў выніку тэрарыстычнага нападу на Нью Ёрк 11 верасьня 2001 году. На першыя ўгодкі трагэдыі цэлы дзень тэлебачаньне перадавала прабег жалобных - патрыятычных урачыстасьцяў, зьместам якіх быў боль і зарок:

**WE WILL NOT FORGET YOU!**

Я гядзела тэлевізыйныя перадачы й думала пра **КУРАПАТЫ** , думала не пра блізу тры тысячы, а блізу тры мільёны ахвяр сталінска-савецкага тэрору у Беларусі. У выніку масавых расстрэлаў насельніцтва Беларусі найбольш пацярпела беларуская інтэлігэнцыя - прадстсўнікі навукі й культуры. Прыкладам: ІНБЕЛКУЛЬТ - Інструтут Беларускай Культуры, заснаваны ў 1922 годзе і пературованы ў БЕЛАРУСКУЮ АКАДЭМІЮ НАВУК у 1928 годзе, у выніку генацыду

страціў **90% сваіх сяброў**, пераважная большасьць зь іх былі расстраляны. А з усіх **238 беларускіх пісьменьнікаў** арыштаваных у часе 1930 гадоў толькі 20 выжыла.

Думала, што ні Беларусь, ані тым болей сьвет, не адпраўлялі такіх жалобных памінальных урачыстасьцяў памяці ахвяраў балкьшавіцкага тэрору ў Беларусі. Наадварот, сьляды генацыду заціраліся й заціраюцца па сяньня. На магілах ахвяраў генацыду збудавалі Чалюсьценскі парк, дзе цяпер дзеці гуляюць на касьцях сваіх дзядоў і прадзедаў; а праз могілкі ў Курапатах праводзяць кальцавую дарогу....

Ды так, ці йнакш беларускі народ аддае пашану памяці ахвяраў генацысу дакананага над ім. Прыкладам будуць Абаронцы Курапатаў - ахвярныя хлапцы й дзяўчаты; тыя, што йсуць у паломніцтвы да Крыжа Пакутнікаў Белартусі ў Курапатах ды нясуць на сваіх плячох Крыжы, ставяць іх на магілах пакутнікаў, тыя, што збудавалі Крыжовую дарогу ў Курапатах; тыя што суботамі чысьцяць лес Курапатаў - могільнік ахвяраў генацыду; Ды перадусім тыя што дасьледуюць, дакумэнтуюць і пішуць навуковыя працы пра генацыд даканаы над беларускім народам.

## НОВЫ БЕЛАРУСКІ ДОКТАР ДЭНТЫСТЫЧНАЕ ХІРУРГІІ

Вітаем Менскага лекара-стаматалёга Алёну Ўласаву, сяброўку Згуртаваньня Беларусаў Канады, з атрыманьнем ў чэрвені 2001 г. пры унівэрсытэце Таронта пацьверджаньня ейнага Менскага дыплёму, і атрыманьнем права на практыкаваньне дэнтыстыкі ў Таропта з навуковай ступеньняй **Doctor of Dental Surgery (DDS)**- Доктар Дэнтыстычнае Хірыргіі.

У 1980 годзе Алёна Ўласава закончыла Менскі Мэдыцынскі Інстытут, Стоматалягічны факультэт і з таго году па 1995 год працавала ў Менску як лекар-стоматалёг.

У 1996 годзе Алена Уласава прыехала ў Канаду , і ў 1999 годзе была прынятая на Тарантонскі ўнівэрсытэт, факультэт Дэнтыстыкі. Справа ў тым, што Менскаму лекару-стаматалёгу, каб атрымаць права на практыкаваньне дэнтыстыкі ў Таронта, патрэбна было прайсьці двохгадовую кваліфікацыйную праграму, быць дапушчанай да і здаць экзамен перад "Board of Canadian Dental Examination". Вось жа ў чэрвені 2001 году Алёна Уласава пасьпяхова здала экзамен перад "Board of Canadian Dental Examination", і атрымала пацьверджаньне свайго Менскага дыплёму й права практыкі ў Таронта як - Doctor of Dental Surgery. - Alona Ulasau DDS.

Ад імя Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады (ККБК) вітаем др. Алёну Уласаву з асягненьнем, жадаем удачаў у разбудаваньні добрае дэнтыстычнае практыкі, на што патрэбвна, як мне калісь казалі, ня толькі веды й умельства, але й трошкі шчасьця. Дык шчасьці вам, Алёна, Божа!

Др. Раіса Жук-Грышкевіч

---

**Бэры, Канада**
**25 верасьня, 2002**

**Др. Раіса Жук-Грышкевіч**
**Былы Старшыня ККБК**

---



РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

ПРЭЗЫДЫЮМ

## A STATEMENT BY THE RADA OF THE BELARUSIAN DEMOCRATIC REPUBLIC IN EXILE REGARDING RUSSIA'S PROPOSAL TO ANNEX BELARUS

Belarusians in and ouside of Belarus watched in disbelief when, on the 14th of August, Russian President Putin announced on TV his plan to effectively annex Belarus. In Belarus, there was an immediate and popular outcry which deserves strong outside support. Outside of Belarus, however, as with the annexation of Austria by Hitler, the threat of annexation of Belarus has seemingly been announced into a vacuum of general indifference.

Throughout history, Belarus has always been coveted by the masters of the Kremlin. At the end of the 18th century, the czars managed to appropriate its territory. Together with Stalin's purges, those 120 years of Russian occupation were a tragic period in long Belarusian history. The population was decimated, the Belarusian language and the Uniate faith banned, and Belarusian identity systematically annihilated. The Belarusian nation continues to be affected by the aftermath .

Mr. Putin's proposing a referendum that would allow Russia to annex Belarus is an imminent threat to Belarusian sovereignty. When Belarus agreed to surrender its nuclear arsenal in 1994, Russia, the United States and Great-Britain signed an accord guaranteeing to protect its independence when needed. Eight years later, one of the signatories appears ready to violate the accord and the other two have so far been silent.

We appeal to the governments of the free world and to all people of good faith to support the Belarusian people who risk once more being absorbed by an agressive neighbor. Mr. Putin's conduct sets a dangerous precedent and goes against all norms of international relations. If the world's democracies do not react at this time, Belarus may end up being the first of the former Soviet States to be reintegrated into a modern version of previous empires that had caused so much suffering to humanity.

August 16, 2002